НІНА МАЦЯШ

# ПОЎНЫ КЕЛІХ

ЛІРЫКА



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1982

## ПЕСНЯ

«Сонцам
Дзень пачынаецца.
Ясным сонцам адметны дзень,
Як бы хмары ні слаліся нізка» —
Ценем вернай ахоўніцы
Песня гэта
Шчымліва за мною ідзе
Ад калыскі.

Не прыстаць,
Не здарожыцца,
Не звярнуць на пярэдых, спачын,
Не пакінуць абурана,
За сабою не ляпнуць дзвярыма, як векам.
Песня помніць:
Адступіся яна ад людское душы —
І ўжо не ўберагчы
Анічым
Чалавека.



Снягі абложныя прадвесне
Пратне травіначкі лязом,
І свет наш прадаўжальна змесціць
Паміж усмешкай і слязой,
І зноў панітавана будзе
Вясёлка траўня і слата,
І радасць гэтак лёгка спудзіць,
І стогну цяжка вылятаць.
Снягі прыпалыя прадвесне
Пратне травіначкі лязом,
І цэлы свет працяжна змесціць
Паміж усмешкай і слязой,
Дзе недазвол на безнадзейнасць,
Дзе спадзяванняў правата,
Што нас нявыказнае здзейсніць
Раней, чым прыйдзе немата.

**СТУДНЯ**

*Уладзіміру Андрэевічу*
*Калесніку*

Піць.
Не толькі вуснам.
Сэрцу піць.
Кожны сам сваю капае студню.

Дзе ж мая крынічка спіць?
Важкі, вязкі глей далоні студзіць.

Піць.
Каб не адной.
Яшчэ кагось,
Шчэ адну хоць
Блізкую мне душу
Напаіць з калодзежа майго.
Да крынічкі я дабрацца мушу!

Уздыхну, шчаслівая, тады,
Праз гады дарогу пацалую,
Прыпаду да ломкае вады,
Смагу наталю.
І... засмуткую.

## МІНСК, 30 СТУДЗЕНЯ 1980

Нахалолы вечар на двары
Моўчкі пералічвае сняжынкі.
Усміхайцеся, мае сябры,
Гаварыце шумна, без упынку!

Дыскутуйце ў лад і неўпапад!
Сёння сэрца
тонка сэрца чуе:

Развярэдлівы трывогапад
На планеце днюе і начуе...

Радасці непрыядальны смак —
Бо дарогі гора не пытае.
Гэта й нашай лучнасцю няўзнак
На зямлі пагода высвітае.

Поплеч, бліжай, блізкія мае!
Чалавека шмат што згубай страшыць.
Хай жыцця парукай устае
Поўнік дабраты й любові нашай!

Вечар за сняжынкамі цікуе.

Чуеце?..
Зноў
аўтамат
такуе!..

## М. К. ЧУРЛЁНІС. ДЗЕНЬ

Ніяк не ўстаць.
Ніяк не распрастацца.
У невядомасць цягне, бы ў смалу.
Але ўпіліся ў край планеты пальцы,
Усходзіць галавы цяжкой валун!

А за спіною —
Дзень таго не бачыць,—
Хай бачаць тыя, хто сустрэне Дзень! —
Як тайны вырыс Космасу,
Маячыць
Светлая постаць —
Часу пільны цень.

Ляжыць зямля пустынная, нямая.
Стварэнню свету йсці ў каторы раз!..
Глядзіць нам проста ў вочы, не міргае,
З засцерагальна ўзнятым пальцам
ЧАС.



Свет чалавечы прагне людскасці.
Але хіба яе
Магчыма выняньчыць
У самаразбурэнні?

Хай будуць благаславёны закаханыя!

## ТВАР У ТВАР

Маладая,
Нібы расінка на лістку барвінковым,
Наструнена прыкіпела
Ля калыскі свайго немаўляці,
Не ў сіле адвесці вачэй
Ад чужога калецтва:
На калёсках
(не мае ног)
Па вуліцы рухаўся
торс чалавечы...
Скрып калёсак старога салдата,
Ледзь улоўны звон медалёў
Нясцерпным набатам званоў хатынскіх
Біў у скроні жанчыны,
І ў ажынавых зрэнках яе
Перахлістваліся пяклівa
Боль,
замяшанне
і страх,
А ў зграбнай паставе застыла
Насцярожанасць рысі:
Трапяткая рука захінала міжволі,
Усё захінала
карунковай накідкай
калыску...

## СУХМЕНЬ, 1979

*Брату*

Цяпер, калі ўсееўрапейская спякота
З неміласэрнай сілаю сягнула
З нябёсаў выскварaных і сюды,
На старану палескую маю,
У дольных водах некалі купаную,—
Цяпер яна жадна глытку вады.
Як дзіўна: гэту смагу
Непрыспанаю
Нашу ў сабе ўсе помныя гады.
Мяне ў дарозе —
У любой —
Заўжды —
Да чыстага калодзежа цягнула.

## ЗАКАНАМЕРНАСЦЬ

Сэрца звычайнай канфігурацыі.
*З медзаключэння*

То ці варта ўжо так непакоіцца, доктар,
Што яно, гэта сэрца маё
Са звычайным абрысам лісточка бярозавага,
Часам гэтак балюча трапеча,
Што сарвацца гатова

Мяне ўразіла б іншае:
Каб у ім без пакуты варочаўся
Свет гэты белы...

## КАБ СПРАЎДЗІЦЦА

Як поры году: адыходзяць — каб вярнуцца,
Мае сумненні растаюць,
                ды апантана
Ім зноў на стыках будняў абярнуцца —
Прабіцца,
        быццам праз асфальт трава —
Пытаннямі.
Няхай аточваюць!
Няхай маіх адказаў зерне
Зноў тоіць завязь новай скрушнасці бяссоння:
У ім —
        не марная неміласэрнасць.
Адно ўжо ведама мне і сягоння:
Усё, што я раблю,
Мае ўсе радасці,
Памкненні, злыбеды мае —
                ўсё гэта я.
Жыву, каб спраўдзіцца.



Так доўга чалавек глядзеў пад ногі,
Навобмацак шукаючы дарог,
Нібы ў пачатку даў сабе зарок
Нідзе не спатыкнуцца, покі змога.

Якім пакутным быў няроўны крок!..
А зоры так зіхцелі над разлогай!..
І ўскінуў горда галаву нябога:
«Ад бед сябе я тут не абярог.

Быў я пакорны. Вырас нецярплівы.
Даволі плазаваць пад зорнай злівай:
З самое зоркі дом сабе зраблю!»

І ўладна з гэткай сілаю шчымлівай
Наблізіў зоры да сябе!.. Шчаслівы
Ці будзе ён, пакінуўшы Зямлю?..

## АДНАМУ СЯБРОЎСТВУ

> Добрыя нашы ўсе парыванні,
> Як кветкі, хочуць, каб іх палівалі...
>
> *А. Вярцінскі*

Час аддаляе нас.
Але ці час вінаваты,
Што ў нас аказалася небагата
Душэўнай руплівасці не напаказ?

Сяброўства зялёнае каліўца
Яшчэ не зусім засохла
І хоча расці высока,—
Няўжо яно ў нас ашукалася?!.

## І ЧАЙКІ

Сугучча апярэння і паставы годнай,
Праніклівага зроку вастрыня,
Імклівасць дужых крыл,
Дакладнасць руху
Ім —
Лёткім злучнікам нябёсаў і вады —
Азёрным чайкам волелюбным
Дадзена.

І вось —
Яны
Над сметнікам крыкліва мітусяцца
І, нібы вераб'і кароткапёрыя,
Да хрыпу сварацца
За чэрствую скарынку...

◆◆◆

Сакраментальна вырашаем,
Што не прыняць, што зберагчы,
Замоваю лясных вяршалін
Шукаем зорныя ключы.
Суладдзе душ пакутна творым.
Зляціць праменьчык па камлі,
Сасновы ў ногі кіне корань:
За неба ўдзячны будзь зямлі!
Спаткнуся.
Зорны ключ не бліснe
Між асыцелае травы.
І рыме за паклон мой бліжні
Маё падзенне да крыві...

## У ВЯНОК ЛЮБЕ

◆

Знаёма-новы,
Ледзь абжыты дом.
Мне абжываць яго.
І ты
Заходзіш.
Не прывідам —
Жывая.

Пытаешся, ці я ўзяла вазон —
Без кветкі ў хаце,
Як без гаспадыні...
З патайным хваляваннем
Я дзялюся
Арэхамі з табой.
Ты усміхаешся, бярэш...
А неўзабаве,
Цябе схаваўшы похапкам за дзверы,
Аўтобус,
Перапоўнены людзьмі,
У пільную дарогу вырушае.
Праз шыбу шызую
Твая відна мне постаць.
Ды ты ўжо не звяртаеш
Увагі на мяне.
Сачу шчымліва,
Як прападае ў далечы
Аўтобус...

Вяртаюся ў той звычна-новы дом,
У ледзь абжыты:
З краю на стале —
ТАБОЙ ПАКІНУТЫЯ
МНЕ АРЭХІ...



— Твая істэрыка раздратавання
Над возерам, пераплываным мною,

Калі цябе жахае, што жывою
Мяне прадонне ўжо не верне,
Не! —
Твой лямант
Зноў і зноў мяне ратуе ў цяжкім сне...

Няўжо і там,
І за мяжою невяртання,
Табе так страшна плачацца
Па мне?..

◆

...Усе задумы, словы, крокі, сны —
Яны не абрываюцца труною:
У душах блізкіх ядрацца яны
Неўразумелай, жорсткаю віною.

А свет — ранейшы?.. І не той, і той:
У кожнага свой смех і свае слёзы.
Атаву спеліць позні травастой,
І кнігаўкі крычаць ў апошніх лозах.

Усё, як пры табе. І я сама
У клопатаў ранейшых у палоне,
Як пры табе. Але цябе — няма,
«Няма й не будзе...» — сэрца захалоне.

Дык што ж такое, гэтае жыццё?!.
Я азіраюся: твой сын малодшы
На ўзмежжы, колючыся аб асцё,
Збірае ў жменьку цёплыя валошкі...



Не заходзь,
Маё сонца,
За доўгія хмары маўчання,
Не дазволь ім
Зніжаць нябёсы
Над пакутнага роздуму нетрай,
Чый морак такі ж непазбежны,
Як і ты,
Маё сонца.
Ды,
Начэючы,
Смутак хоча быць пэўным
У гаючым тваім узыходзе,
Сонца маё.

## КАЛІ Б ЗАПЫТАЎ

Я не хацела б, мой маленькі хлопчык,
З вачыма —
                    што ўраселы лёну цвет,—
Цікаўнымі, як птушаняты,—
Я не хацела б, каб — васьмігадовы —
Ты раптам па-старэчы запытаўся:
Што думаю я аб жыцці?

Хутчэй за ўсё, ты гэтак не спытаеш,
Хаця наўздзіў парадаксальныя твае
«Дзе», «як», «чаму», «нашто»,
Нібы насенне абдуванчыкаў, зрываных
Табою,
Так і носяцца наўкола
Мяне —
Празрыста, лётка, чэпка — вечна.

Маленькі хлопчык мой!
Глядзі часцей
На краявіды родныя,
Ўзірайся
Ў травінку, ў птушку, ў дрэва,
У зару,
Якою днеюць нашы краявіды:
Яны табе памогуць авалодаць
Любові скарбам.

## ПЕРАД ПЕРШАЙ НАВАЛЬНІЦАЙ

Эцюд

Разгорнутая ў страстацвет лістота
Яшчэ прыкідваецца, што не заўважае
Агромністае —

На паўнеба —
Хмары,
Не прыдае значэння
Ні колеру злавеснаму яе,
Што сходны колеру даспелых галубіц,
Ні поступу няўхільнаму, ўсясільнаму,—
Яшчэ лістота
ўзбуджана гамоніць,
Яшчэ паштурхвае гарэзна
голька гольку,
Аднак
У гэтым лопаце,
Ажыўленым празмерна,
У дружным адварочванні спіной да хмары
Так яўна адчуваецца
Наіўная дзіцячая наўмыснасць,
І нельга без усмешкі назіраць,
Як то адзін,
То другі лісцік зіркне
На хмару,
І маланкава адвернецца,
І залапоча нешта бесклапотнае,
Нервова-пудка прыпадаючы цясней
Да жыццярадаснай радні сваёй.
І цяжка зразумець,
Чаго тут больш,
У гэтай веснавой гульні лістоты
Са стыхіяй:
Жадання ўнікнуць буры
Ці жадання буры ўсё-такі?!



Што за патрэба пільная такая
Паклікала цябе,
Мая суседка,
Туды,
Адкуль ніхто шчэ не вярнуўся?
Чаму патрэба гэта аказалася
Пільней і неадкладней той размовы,
Якою летуцела ты,—
Казалі,—
Размовы, мной так бесклапотна адкладанай
На потым, на пасляякнебудзь?..
Не дачакалася, пайшла.
Надзеі нават не пакінула, што некалі
Адна адну яшчэ пазнаюць
Дзве зёлкі нашых існаванняў двух зямных,
Шчэ нагаворацца...

Прадоннай кропляй горкага віна
У чарцы памяці
Мая віна.



Жыццё яшчэ сваё не кажа «не»,
Жыццю яшчэ відочна даспадобы
Мяняць на ласку дзіўную свой гнеў,

Світанне радасці
                тугой аздобіць,
Падступна стому сэрца падаслаць,
Каб ёй у твар змагла я рассмяяцца,
Каб між людзей быллём не парасла
Мая сцяжына помыслаў і працы.

**ПУШКІН У МІХАЙЛАЎСКІМ.**
**Па атрыманні ліста ад Дэльвіга**

«Ах, мілы Дэльвіг!..
У каторы раз
Прыехаць абяцаешся, а час —
Сняжынка да сняжынкі —
У сумёты
Нагортваецца на маім двары...
Калі б вы толькі ведалі, сябры,
Якая тут сумота і самота!..
Як холадна і голадна без вас!..
Жывіцца, нібы вязню, успамінам!..
Не адпускаюць душу боль і віны,
А радасць не залучыш пра запас...
Яе да скону чалавек жадзён.
Да д'ябла цяжка гэта — быць шчаслівым,
Калі і ў хмелю канавана бачыць,
Што ўласны лёс бяссільны сам зыначыць...»

Глядзеў у вузкае акно паўдзён,
Як стражнік,
                    пэўны і немітуслівы.
І клаўся цень ад рамы крыжам шэрым
На стол з лістотай скрэсленай паперы.

## ПРЫЗНАННЕ

Тваё ніякаватае прызнанне —
Зялёны ветах у маёй спякоце.
Калі табе нялёгка
(Так сказаў),
Тады ты да мяне чамусь прыходзіш...

Зялёны ветах, засені галіна.
Як хораша яна знімае стому!
Малой драбнічкі толькі не хапае
У густой лістоце:
Расспяванай птушкі.

Калі б яшчэ і з радасцю сваёй
Прыходзіў да мяне ты,
Як дадому...



Адным і тым жа вёрстам —
Карацець
І доўжыцца —
На подзіў.
Страчаемся з сябрамі ўсё радзей.
Ужо як подзвіг —
Парыў з-за кратаў неадкладных спраў
Да тых нябёсаў,
Дзе грае фарбамі адвечны спрат
Апоры ў лёсе.
Ужо і здольны на такі парыў
Між нас не кожны.
І зорка лучнасці ўжо ледзь гарыць
Перасцярожна...



Не хацела нічога ад вас,
А дары не прыняць не змагла.
Падзякуйце вашым ганцам:
Ветру з гор,
Што настойліва браў за плячо
І прымушаў азірнуцца,
Каб спаткаліся нашы пагляды;

Неспадзеўнаму ліўню, які
Вестуном жыццярадасным
Шчодрасці вашай з'яўляўся;
Ціхай хвалі марской —
Пра патрэбу пяшчоты
Са мной гаварыла яна;
І раскутай,
узбуранай хвалі падзякуйце
За дакладнасць высновы:
Немагчыма —
без бунту.

Не хацела нічога ад вас.
...І вамі — жывая.

ЛІЛЕЯ

Абысці б цябе мне за вярсту! —
Ножанькі прымлелі...

І на Чорным возеры растуць
Белыя ліле.

І на Чорным возеры вясна,—
Берагі абжыты,—
Працінае плынь ажно да дна
Кветам старажытным.

І цвісці яму — не адцвісці? —
Таямніцы нечап...

Дзякуй, што цябе не абысці.
Дзякуй за сустрэчу.



На асамотненай кручы
Лёс не дае халадзець:
Радасна і балюча
У вочы твае глядзець.

Казкаю пакарана,
І ведама нам абаім:
Сонца не за гарамі —
Яно за болем маім.

## КРАСАВІК У САКАХ

Сустрэчы — што? Выпадак? Немінучасць?
О як было далёка да вясны
У доме тым пры возеры гаючым,
Што несціла і вергла ў продань сны!

Ішлі праз ноч агні палоскай вузкай
Да зор, на подзіў рэдкіх, угары.
«Пагавары са мной па-беларуску!
Пагавары!..»

Каля балкона кажаны ляталі,
Сам у сябе ўзіраўся карагач,
Адказвала сабачым брэхам далеч
На знерваваны чайчын покліч-плач.

А над усім —
Над сцішанасцю золкай,
Над кажанамі, што гусцілі змрок,
Усходзіла гарачай чыстай зоркай
Матчына мова,—
І відушчаў зрок.

Хай бед людскіх не развясці рукамі —
Успыхне слова выйсцем пра запас.
...Цвілі так блізка вочы васількамі,
І жыта,
Жыта абступала нас...

## ЖАР-ПТУШКА

У мой прыглухлы,
Поўны лета сад
Аднойчы,
Як сухая навальніца,

Зіхотка, бесклапотна, жыццярадасна
Жар-птушка з казкі ў сад мой
Прыляцела,
Прашыла зорным полымем яго,
І кожнае зярнятка ў кожным яблыку
Задыхала з абуджанай маркотай
Сканаць,
Ды толькі — цветам прарасці.
Стрывожаны,
Устрапянуўся сад,
А птушка...
Палае двузіхоткае пяро,
Пакінутае мне
Не на ўспамінак:
На тое, каб і ў верасні, і ў лютым
Быў сад мой
Поўны лета.
Каб ён
Быў казкаю.
Азораны. І толькі.

## СКАРБ

Аддаў сябе як скарб, шалёны скарб.
Разгубленай жабрачцы што рабіць з ім,
Як абыходзіцца,
Паводзіцца з ім, каб

Не злегкаважыць і не страціць
Дачасна?
Давер, як павадак,
Апаламляе.
Глядзела
Глыбознымі трывожнымі вачыма,
Баялася даткнуцца:
Не зняверыўся б...
Дыхнуць не смела:
Не зняверыцца б...

Шукала супакою для душы.

Багатаму не спіцца.

А рана
Прыкідваецца толькі,
Што яе — няма...

## ГРАМНІЦЫ

Грамніцы —
Палавіна зіміцы.
Не напіўся певень вадзіцы.
Што ж не дасць усумніцца,
Што грамніцы —
Палавіна зіміцы?!

4*

Ці ж не гэты блакіт,
Маляваны густа, высока?

(Болей —
Ласка тваёй рукі,
Мой сокал...)

Ці ж не спіленыя сукі
У таполяў пасёлка?

(Болей —
Ласка тваёй рукі,
Мой сокал...)

Ці ж не лёгкасць дыхання, якім
Усё налілося?

(Болей —
Ласка тваёй рукі ў маім лёсе,
На грамніцы,
На палове зіміцы.)

## НЕМІНАЛЬНАСЦЬ

Як кажуць,
Плачам рота не направіць.
Не ўпершыню мне часу не шкада.

Не ўпершыню раскошна марнатравіць,
Каб зноў і зноў быломy волю даць.

У час мінулы не даходзіць пошта.
Ды час мінулы хоча сведкам стаць:
Не ўсё мы ўмелі ўзяць у хвілі кожнай,
Ды без вагання ўмелі аддаваць.

І тая шчырасць, спогадзь і пяшчота,
Чым пераможна багацелі мы,
Шуміць бяссмертна веснаю лістотай
На стромым дрэве нашае зімы!

ПЯШЧОТА

Я не ведаю,
З якога зернейка пунсовай мачыны,
З якой расінкі на галінцы верасовай,
З якога суквецця атульнага хмелю,
З якой формы,
З якога водару
Нараджаецца мая пяшчота да цябе.
Я толькі ведаю,
Як нешта
Імгненна і таямніча,
Падобна ўзварушлівай хвалі гарачай,

Працінае глыбіні мае найглыбшыя
І ўзнімае высока-высока —
Да самай ласкі тваёй;
Як гэтае нешта,
Быццам засень п'янкая
Першай слівы
Расцвілай,
Запалоньвае ўладна ўсю істоту
І зрушана прыгортвае —
Да ласкі тваёй;
Як безназоўнае нешта
Па магічнаму знаку няўлоўнаму
Раптам намыслы ўсе і жаданні мае
Абарочвае
Прадоннай ракою,
Што прагне адзінага акіяна —
Ласкі тваёй.
Я не ведаю,
Чаму так,
Не інакш.
Чаму менавіта цябе выбірае
Гэта хваля,
І гэтая засень,
І гэта рака.
Чаму
Цябе аднаго
Выбірае...



Кажуць: трэба.
Кажуць: будзе лепей.
А навошта — трэба?
Лепш — каму,
Пачуцця спякотлівае лета
Выдаваць за сцюжную зіму?

Трэба?.. Знаць: твой ратавальны бераг —
Я — твая натхнёная пара,
Жыць тваім даверам, ды —
«не веру,
Я табе не веру»,— паўтараць?

Лепей?.. Прагнуць стрэчы, трызніць стрэчай,
А ўляціш у мой маркотны круг —
Абыякава атрэсці плечы
Ад гарачкава-пяшчотных рук?

Мой каханы!
Я не ўмею гэтак.
Не па мне наўмысна, ясны мой,
Пачуцця спякотлівае лета
Абарочваць сцюжнаю зімой.

Снег чужання, так даўно расталы —
Што яму цяпер
між нас рабіць?!
Не хачу кахання рэдкі талент
Хітрыкаў бяздарнасцю губіць!

Узаемнасць знае, сведчыць, помніць:
Каб шчаслівай быць заўжды, не міг,
Трэба ласцы й шчырасці няўтомна,
Безаглядна й годна — на дваіх.

Даруй мне полымнасць маю.
Яна балюча апякае
Цябе за вечнымі замкамі.
Папеленая, не чакаю
Адхлання ў прорвы на краю...
Даруй мне полымнасць маю.



І гэтая сустрэча — неўпрыцям...

На кручы смутку — як абрабаваны..,

І доўжыцца бязмежнасць пачуцця!..

І не відаць мяжы выпрабаванням...



Вечназялёнаю галінай — спробы
Няўтоленую смагу наталіць...
А непадсудны хіба толькі робат:
Яму нішто людское не баліць.

А нам — гарэць,
і падаць,
і ўзнімацца,
І праклінаць свой лёс, і пець хвалу.
На радасці не можаш расстарацца,
Жыццё,
ну што ж — пакутамі хвалюй!

Бо не аслепіць дробязная ўдача,
Знарочыстую любасць не прыму...
Не марна
так па-веснавому
значыць
Барвяны ліст прыцьмелую траву.

Заўжды існуе недзе гай расцвілы
І светлякі ў зраселай мураве.

Хай вольна табе дыхаецца, мілы.
Твой сум кароткім ценем праплыве.

## ПЫТАННЕ

Нават тады,
Калі вечна я,
Вечна я слухала б
Словы кахання твае,—
Няўжо сапраўды
Табе думаецца,
Што якраз гэтых слоў,
Што так цяжка даюцца,
Нам трагічна так не стае?..

## НАДМЕРНАСЦЬ

Пакрыўдзі мяне!
Як найвышшае ласкі прашу:
Пакрыўдзі бязлітасна,
Каб я не змагла даравадь.
Каб мне засталося адно толькі —
Перакрываваць душу
І раз назаўжды ад майго існавання цябе
адарваць.

Завочная любасць твая неўгасаная —
Нібы крыніца глыбозна ў зямлі.
А мне, перасмяглай,

Сябе ратаваць столькі часу адзіна
сустрэчамі памяццю —
Сіл ужо вышай.

Мой божа, пакрыўдзі бязлітасна!..

Зернятку трэба загінуць у чорнай раллі,
Каб выжыць...

**ВОСЕНЬ**

Ластаўка вясну пачынае,
восень наклікае.

*Народнае*

Ляцелі ў святліцу.
А трапілі вязнямі ў цэлю.
О, сцены!
О, гэты злавесныя цені!

За кратамі
Восень трасе рызманамі стракатымі —
Мроівам шат.

Заўсёды так мала хацела я:
Святла ды цяпла.

А вось выяўляецца:
Хацела — заўсёды! — зашмат.

Напраўду зашмат.

Нераскайна
Высозную цэннасць
Надавала сама
І парыўнаму кроку насустрач,
І загойнаму слову.

Твайму.

Надавала шалёную цэннасць.
А спаўна заплаціць не магла.

Не ўмела.

Так імкліва
Пяшчотная ластаўка наша падворышча абляцела,
Каб даверліва нам перадаць абавязак свой —
На падвор'е наклікаць зіму.



Яшчэ ў пупышках новае лісцё,
Якому песню сонца пець старую...
Няўжо мы некалі сабе даруем,

Што сірацілі наша пачуццё,
Што ўласнай воляй самі сірацелі,
Аберагаючыся ад пакут...
Ляцела птушка шчасця...
Праляцела.
Сваёй радзімы не прызнала тут.

## ДАБРАТА

Дабрата
не імпульс,
не парыў,
Не адзінкавы усплёск эмоцый,
Калі ёй нададзена тварыць
Чалавека з болю
і самоты.
Калі ёй нададзена адной
Рассудзіць,
што прама,
а што крыва.
...Будзь са мною добрым, мілы мой:
Мілы, будзь са мною справядлівым.

## НА БЫСТРЫНІ

Няможна патураць тузе,
Каб яву засланіла зданню,
Каб зрабавала пакрысе,
Што скарбавалася гадамі.

Каб незаслужаны папрок
Не вырваўся нікчэмна з вуснаў.
Калі крыштальны быў выток —
Незамутнёным будзь і вусце!

Не змізарнець бы на вяку,
Не зблоцілася б глеба тая,
Дзе і крынічка б'е, пакуль
Рака плыве і не сплывае!..



Што б ні явілася прычынай
Твайго маўчання,
Не апушчуся я, мой любы,
Да нараканняў.

Занадта нізка трэба падаць
Са стромай кручы,
Куды ты ўзнёс мяне каханнем,
Мой немінучы.

Раскоша самага ўзнясення
Не дасць упасці.
Я толькі праз яго спазнала
Прадонне шчасця.

Я толькі праз яго спасцігла
Мінальнасць хвілі.
Свае дары багі — і тыя
Забраць не ў сіле.

Ты болей значыш: ты — Каханы.
Не наракаю.
Маўчыш.
Азвешся.
Хоць праз леты.
Я пачакаю.

## НЕ АДДАВАЙ СЯБЕ САМОЦЕ

*Э. М. І.*

На золку прымаразкі ходзяць,
Не першы жоўты ліст упаў.
Не аддавай сябе самоце,
Заўчасна ёй не саступай.

Няхай пазначана журбою
Расстанне восені з вясной,
Нашто ж развітвацца з сабою,
Сябе збаўляць першаасноў,

Калі вачам — нябёс сінеча,
Калі рукам — барвяны ліст,
Калі для сэрца — позірк нечы,
І ўздрыгне сэрца, як калісь...

## НАКАНАВАНАСЦЬ

Маркота раскусцілася,
Бы ўпарты, чэпкі плюшч.
Хіба ж я памылілася
У сугуччы нашых душ?

Бязлітасная, выпалю
Да караня яе.
Не на самоту выпалі
Мне радасці твае.

Вузёл занадта ўжо тугі
Закручаны з тугой:
Не ведаць шчасця мне з другім,
Як і табе — з другой.



Запозненаю дзікаю ажынай
Ўзаемнасць наша дзёрзка расцвіла.
Мы ж бачылі,
Што лучная сцяжына
Па-за шляхамі нашымі была.

Мы ж разумелі,
Што блакітнай грывай
Праменны далягляд
Не нас
Заве.
І ўсё-ткі безразважна,
Як з абрыва,
Зрываліся ў наш
Невымоўны верш.

«Чакай. Кахай».
Кахаю.
І чакаю.
На самаце.
Сярод людзей.
Цяпер
Само паветра дасканала знае,
Як ім балюча дыхаць
Без цябе.

## ПРАДЧУВАННЕ

Не дакарай мяне, што твае слова
Бяру да сэрца так, да галавы:
Твой дух жывіўся полымем любві,
Твой кожны рух цяпер — не выпадковасць.
Здаволенасць і пэўнасць не адразу
Усведамляюць праўду перамен.
Ты ўжо чытаеш рэўнасць
узамен
Беззапаветнасці, што больш не ўразіць...
Ты ўжо гатовы эгаізм убачыць,
Дзе безвыходнасць грае дзікі пляс...
Што ж уратуе ў часе нас для нас,
Калі сябе не ў сіле мы зыначыць?
Перасыхаю, гіну...
А пустыня
Злавесна аступае ўсё глушэй...
Міражна дападае да вушэй:
Шумяць падлескі кронамі густымі!..

## НЕ МІРАЖ

Была дарога. Пралівень улеіў
Такі, бы свет у прорву панясло.
Ды хутка неба зноўку расцвіло
Раскошнаю блакітнаю лілеяй.

Сінечы гэтай настраёва ўторыў
І несмяротна вабны васілёк,
У злеглым жыце бачны шчэ здалёк,
І да асфальту выбеглы цыкорый.

Зыходзіў ліпень, але поўны весняй
Трывушчай сілы,
радасці жыцця
Быў перамыты ліўнямі прасцяг,—
Душа ажно заходзілася песняй!

Таму душа і зважыць не схацела
На подумку пра смерць,
што праплыла...

А гэта ўжо, знішчальная, страла
Твайго «бывай» у пространі ляцела!..

Праз дзень страла
Навылет працяла...
Адно ў безабароннейшым парыве
Адчайны ўстрапятнуўся ўскрык:
— Скажы,
Хіба ж балець так могуць міражы?!.
Прыйшоў наяве, растаеш, як прывід!..
Прыйшоў наяве, растаеш, як прывід...

## ЗАВЯЛІКАЯ

Як Самота з госцяй Радасцю развітвалася,
Дык усё яе пыталася, дапытвалася:

— Што ж ты, мілая, так мала пагасціла?
Пэўна, нечым я табе не дагадзіла.

Мо няўдалай гаспадыняю была я?
Мо табе мая святліца замалая?

Пакланілася ёй Радасць і сказала:
— Ах, тваёй мне ласкі шчырае хапала.

Ты прабач, што пабыла як для прыліку я.
Не малая твая хата. Завялікая.

## ПАСЯРОДКУ РЭХА

Прыдалася,
Прыдалася ў маёй долі
Твая песня:
Гэта з ёй —
Такой кароткаю —
Сама сабой была я.

Сёння рэха,
Толькі рэха тое песні засталося.
І не моўкне.

Як замрэ —
Азначыць:
Навучылася я ўласнае рыданне
Браць за горла.

## ТРЫПУТНІК

Згубіліся ў натоўпе.
Час, гэты
Пастух усюдыісны,
Па неўгаданай прыхамаці звёў нас
На міг,
Каб вочы ў вочы,—
І з гэткаю ж бесцырымоннасцю напомніў
Пра нашы накірункі і дарогі,
Несупадальныя, як нашых пальцаў
Адбіткі.

Павечна кожны з нас у загародцы
Уласных абавязкаў і правоў.

Прыкладваем да сінякоў, да ран
Таючы
Трыпутнік той сустрэчы.

## УЖО НЕ РАССТАЦЦА

Нам ужо не расстацца.

І табе без мяне па жыцці не ісці,
Як і мне без цябе —
Ні наплакацца, ні наспявацца.

Нам, не злучаным,
Вечнай прысутнасцю нашай трымацца.

Так рука адарваная ные, смыліць.

І захочам забыць,
А не зможам без болю астацца.

Нам ужо не расстацца.

## ПЯТЫ СЕЗОН

На камянях, што жывяць нашы сцежкі,
Зазелянее шчырая трава.
Чым больш пакут, тым болей сіл трываць.
Настаў сезон аддаленай усмешкі.

Па злівах, бурах з перунамі, з ветрам
Мой дзіўны сад так повен злагады!
І ледзь гарчаць дзівосныя плады
Гаркотаю суцішанай і светлай...



Я тебя никогда не забуду.
Я тебя никогда не увижу.

*А. Вазнясенскі*

Я цябе ніколі не забуду.
Не таму, што шчэ сустрэчы будуць,
Што адзін пагляд і слоўка ў стане
Замасціць бяздонне развітання.

Я цябе ніколі не забуду.
Не таму, што шчэ ўспаміны будуць,
Што аднюсенькая згадка ў стане
Замасціць бяздонне разітання.

Я цябе ніколі не забуду.
Бо да скону прагнуць шчасця буду.
Бо да скону будзем мы не ў стане
Замасціць бяздонне развітання.

## ЦІ СКАЖУ

Ці скажу, што жыццё — не ўдалося,
Што была неспагаднаю доля,
Бо ўплятала куколь у калоссе,
Град і засуху слала на поле?

Як бы склаўся мой лёс, каб не знала
То празрыстай,
то душнай маркоты
Па ўсяму, што мяне абмінала,
Што не прыйдзе ні заўтра, ні потым?

Нагабаная ў жыцце падкова
Вінавата паблісквае ў хаце:
Ля чужога агню
выпадковай
Грэцца ласкай
чужога дзіцяці...

Быць залежнай ад поўні й завеі,
Ад чужога маршруту і руху
Быць залежнай,
і помніць, і верыць,
Што я — голас іх радасці й скрухі.

Голас тых,
што здалеюць знямогу
(Мне ўдавалася ў болю не ўпасці).
Голас тых, чыя ў сонцы дарога
(Выпадала мне зведаць і шчасце).

Узыходзіць, як каліва, слова.
Не згубіцца яму ў шматгалоссі.

Ці скажу, што жыццё — не ўдалося?

## ЭЦЮД З ГІТАРАЙ

У гулкай звечарэлай вулцы
Гітары нечай
Скруха б'ецца,
То ўстрапятне,
То захліпнецца.

Пад ліхтаром начніца ўецца.

І мне тваё святло —
Сіло,
І сілы —
Вырвацца —
Не маю.

Расой вячэрняю —
Гаркота.

Гітары нечае
Маркота
У вулцы гулкай не ўціхае.

Нібы начніца тая, ўецца.

І горна да мяне хінецца.
Прытулку ў полымі шукае...



...І ён прыйшоў, мой час круты, калі
Уласны цень —
і той мяне пакінуў...
Нябёсы ўсцяж прыпалі да зямлі,
Нібы яны і сапраўды такія:
Неасцярожна ўскінеш галаву —
І панявечышся аб беспрасветнасць...

Знік цень.
І зноў на ўзяблую траву
Вярнуўся — свету хараство засведчыць.

І хоць абрысы чоткія яго
Зусім не паўтараюць форму цела,
Ён мной адметны: гэтулькі ж майго
Там
руху слова, справы, летуцення!

І сталася: ты — мной, а я — табою.

Шчыруе моўчкі наша вышыня,
Каб два абліччы ў адну сутнасць здвоіць.

Каб людзі памагалі й так, па двое,
Людскім страсцям пагодай набрыняць.

## ПАВАРОТ НА ЛЕТА

Дні зімняга сонцастаяння!
Мяцельнае кудасы баль,
Калі на ўсяленскім аргане
Па нотах раскладзена даль!..

Дарога па следу смуткуе,
Сустрэчы — нібы міражы,
Пакуль сваю ўладу святкуюць
Раскутыя маразы.

Раптова прасветлена гляне
Адліга з-пад волкіх павек,—
Дні зімняга сонцастаяння,
Цяпла неўміручы павеў!

Як шчодрацца блізкія вочы!
Як ломка адзвоньвае лёд!..
Цяпер ужо сонца не збочыць —
На лета яго паварот!

## ЧОРНАЯ ЗОРКА

За разважлівасцю, ўдумлівасцю —
Як за крапаснои сцяной.
Годны рух цвярозы твой,
Слова сказанае ўзважана,

Столькі вытрымкі паважнай,—
Закратаваны спакой.
О якое гэта шчасце,
Што жыве на свеце хтось,
Каб хоць зрэдку, час ад часу
Выбаўляць цябе ■ палону
Незалежнасці тваёй.
Каб вяртаць табе самой
Існую цябе, такую —
Рассмяяную, слабую,
Безразважную, пакорную,—
Па якой няўсцерп смуткуеш
Па-за ўзведзенай сцяной
Волі й мудрасці тваёй!..
Спагадаеш чорным зорам,
Звышмагутным,
Тым, з каторых
І праменьчыку не вырвацца...



Час —
Рахманы, бясстрасны,
патурысты дзед —
Канаваў гаспадарна
(Прыняць бы з пакорай):

За агульным сталом нам
Не поруч сядзець,
Каб увагу сваю аддаваць тым,
Хто поруч.

Нам зміріцца б...
І мірымся,—
Да пары, да красы,
Што бязлітасна тлум і самоту авесніць! —
І сальюць нашы смуткі свае галасы,
І хіснецца зямля ад суладнейшай песні!..

І забыта, знябыта, знепрытомнена дзесь
Тое рэха, што заўтра непазбежна паўторыць:
«За агульным сталом нам
Не поруч сядзець».

А й яны хочуць душ нашых,
Тыя,
Хто поруч...

## ВЕРУ

Пакуль жывая — ўсё будую штосьці,
Чаму найменне знойдзецца па смерці.
Пакуль што ведама адно:
Будую дзеля радасці,

Не дзеля адзіноты.
Пачвара ж гэтая
Імгненна выцікоўвае
Найдробязнейшую недасканаласць у стасунках
З раднёй,
З сябрамі вернымі,
З каханым,
З расплаканаю каняю
І з васільком у жыце,—
Каб пратачыцца,
І запанаваць нахабна,
І спатайка ўсё зруйнаваць дашчэнту.

Так дорага, што ёсць на свеце песня,
Якая —
Веру я! —
Не дасць будынку рухнуць.

І светлы будзе ён.

**РАЗЛУКА**

Той дотык рук... лядзяны і дрыготкі...
Той пацалунак... быццам нежывых...
З дня ў дзень,
З дня ў дзень, нібыта з году ў год я,
Нашу ў сабе. Так носяць журавы

У выраі маркоту па радзіме.
Чужое неба шчасця не дае.
У птахаў толькі смерць хіба адніме
Шлях да айчыны,
Да нябёс яе.

## ЧАСОВАСЦЬ

Сузіральнай туі
Марудлівага сонца,
Мора,
Гор

І ВЕЧНАСЦЬ

Позірку твайго:
Мяне ўжо ад яго
І горы не затуляць...

## АМАЛЬ КАЗКА

За гарамі, за даламі,
За бяссоннымі начамі,
Жыў ды быў вялікі цар —

Смутак, духу валадар.
Быў той дух і сам не зломак,
Моцны, горды быў той дух,
Адалець часінай злою
Мог любую ён бяду.
Добра нам даўно вядома:
Страшыць толькі невядомасць.
Сёння знае дух паболей:
І ўсёведанне падчас
Пазбаўляе волі
Нас.
І тады прыходзіць смутак,
Запаноўвае ў душы,
І ягоны,
Ласкай люты,
Голас
Цяжка заглушыць.
Немагчыма запярэчыць
Праўдзе голасу таго,
Што ўскрывае недарэчнасць
Запаветнага ўсяго.
Як уласную пяздарнасць,
Так яскрава бачыш марнасць
Спадзяванняў, намаганняў,
Пашанотнасці,
кахання...
І адзіным выйсцем будзе
У безвыходнай той журбе:
Памагаць, чым можаш, людзям
І не плакаць аб сабе.

## ЗЯЛЁНЫ ЛІСТ, ЧЫРВОНЫ КВЕТ

Не разбурай таго, што ёсць.
Душы звычайную прыязнасць
Стаць іншаю не абавязвай,
Пакуль нам хораша, як ёсць.

Адзін неасцярожны крок —
А свет зыначыцца адразу.
Пасля
            вымагай не абразіць
Нас, немаёмных, лёгкі крок?

Зялёны ліст, чырвоны квет
На подзіў туга неравіты,
І крый нас божа нераблытаць
Зялёны ліст, чырвоны квет...



«Па снезе, па слаце —
Пагода расцвіце,
Заграе сінява,—
Прашу не сумаваць!»

...Зноў з берагоў рака,
Зноў радасць жаўрука,

Зноў сонейкам падбел
У вочы мне й табе.

І промні па слаце,
І сум, як сад, цвіце!..



...Успрымаць як цуд, што я жыву,
Чую галасы бацькоў і руні;

Са здзіўленнем дзён маіх дратву
Пазнаваць у рассяваных струнах;

Дзівавацца каменю й лістку,
Дзівавацца кораню й дажджынцы;

Зноў адчуць, што я на валаску
Над прадоннем спеленых дажынкаў;

Ведаць пэўна, што рука твая
Мне не дасць аб камяні разбіцца.

Як магло са мной такое збыцца?!
Дзівавацца гэтаму ўдвая...



Забрыў высокі дзень пагодны
У светлы одум верасковы...
Табе я стала неабходнай.
А ці зраблюся дастатковай?..

Дзень павуцінку шчасця ловіць,
І шчасце вырвацца не смее.
Як ружы, кідаеш мне словы.
А сам ты іх — ці разумееш?..

Навошта я... Хай потым, потым,
Пазней прыдасца гэты одум!..

Твая вясенняя пяшчота...

Мая асенняя пагода...



Я думаю пра мой найлепшы дзень.
Узыдзе ён,
Як келіх макавы,
Вясёлкава зайграе
Насычанымі гранямі сваімі.
Як летні ясень, спраўджаны лістотай,

Як поле жыта з васільком у вуснах,
Нібы калодзеж з зоркаю на дне,
Знутры свяціцца неўгасальна будзе
Мой дзень найлепшы,
Крышталёвы келіх,
Ушчэрць наліты мірам на Зямлі.
Найлепшы дзень мой!
Мой блакітны птах.
Зялёны промень сонца пры заходзе.
Саргасавае мора ў акіяне.
Якая згода явы й летуцення,
Здзяйснення й помыслу,
Натхнення й палону!
Як пахам яблык,
Як азонам вецер,
Як полымем касцёр,
Увесь працяты
Маёй любоўю
І маім каханнем.
О, дзень мой дасканалы!..

ЗМЕСТ

**Мацяш Н.**

М 36 Поўны келіх: Лірыка.— Мн.: Маст. літ., 1982.— 63 с.

20 к.

Багацце ўнутранага жыцця, тонкая духоўная арганізацыя, жаданне рабіць дабро, актыўнае станаўленне да жыцця вызначаюць паэтычны свет кнігі.

М $\frac{70403-036}{М 302(05)-82}$ 60—82

**ББК 84 Бел 7**
**Бел 2**

*Нина Иосифовна Матяш*

ПОЛНЫЙ КЕЛИХ

Лирика

Минск, издательство «Мастацкая літаратура». На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак Л. А. Краўчанка. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Я. А. Бебель. ІБ № 1757. Здадзена ў набор 05.10.81. Падп. да друку 14.12.81. АТ 07715. Фармат 60×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,00. Ум. фарб.-адб. 2,19. Ул.-выд. арк. 1,98. Тыраж 6000 экз. Зак. 1999. Цана 20 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.